# ПАГОНЯ

Чацвер
28 верасня 2000 г.
№ 36 (483)
Кошт 70 рублёў


## У грошах адзіная праблема

**26-27 верасня ў аблвыканкаме прайшла выніковая канферэнцыя па праекту «Стварэнне і сеткавае ўзаемадзеянне Беларускага бюро Еўрарэгіёна «Нёман».**

Напачатку гэтага года праект знаходзіўся ў замарожаным стане з-за недафінансавання, аднак ў жніўні быў атрыманы чарговы транш - і работа пайшла.

На канферэнцыі з удзелам партнёраў з Літвы, Польшчы і Еўрапейскай камісіі ішла работа па фінансавай справаздачы па праекту. У цэлым работа па стварэнню Беларускага бюро была станоўча ацэнена прадстаўнікамі ўсіх краінаў-партнёрак.

Дырэктар беларускага бюро Віктар Зданчук падсумаваў вынік работы праекта: « Праект прадугледжваў тэхнічнае абсталяванне польскага, літоўскага і, у большай ступені, беларускага бюро». У прыватнасці, на абсталяванне беларускага бюро ў Гродне было выдаткавана 14 тысяч даляраў, якія пайшлі на закуп трох сучасных камп'ютараў, сканера, прынтара, тэлевізара, спутнікавага камплекту, пэйджараў, іншай тэхнікі. Астатняе фінансаванне - 196 тысяч еўра - пайшло на забеспячэнне міжнародных экспертамі, вывучэнне дзейнасці доследу еўрарэгіёнаў Польска-Германская памежжа.

<u>Даведка:</u> у Еўропе паспяхова працуе каля сотні еўрарэгіёнаў.

**Алена Сіневіч**

**(Больш падрабязна пра Еўрарэгіён «Нёман» - на стар. 3)**

## Будзем з лекамі!

**З 25 верасня на Гарадзенскім заводзе медпрэпаратаў працуе дзяржаўная камісія па прыёмцы ў эксплуатацыю першай чаргі гэтага прадпрыемства. Камісія створана загадам генеральнага дырэктара дзяржаўнага канцэрна «Белбіяфарм» Міхаіла Шкутніка і павінна скончыць сваю працу 29 верасня.**

На Гарадзенскім заводзе медпрэпаратаў будуць выпускацца высакаякасныя амінакіслоты і на іх аснове - сучасныя лекавыя сродкі, а з адходаў вытворчасці - кармавыя дабаўкі для павелічэння прывагаў жывёлы. Такая вытворчасць не мае аналагаў на постсавецкай прасторы.

Першую прадукцыю планавалася выпусціць яшчэ ў лістападзе 1999 года, аднак увод прадпрыемства ў эксплуатацыю неаднаразова адкладваўся з-за недахопу фінансавых рэсурсаў. У ліпені 1999 года завод, што будаваўся, наведала дэлегацыя на чале з віцэ-прэм'ерам беларускага ўрада Барысам Батурам, які асабіста азнаёміўся з ходам будаўніча-мантажных работ. Пасля наведвання прадпрыемства намеснікам кіраўніка ўрада быў падпісаны пратакол, які прадугледжвае выдаткаванне неабходных сродкаў і ўвод у эксплуатацыю першай чаргі завода сёлета ў верасні.

**Ася Куніцкая**

## Кватэры ў пазыку

**Сёння ААТ «Беларуская валютна-фондавая біржа» (БВФБ) праводзіць аўкцыён па размяшчэнню аблігацый першага выпуску першай Гарадзенскай мэтавай аблігацыйнай жыллёвай пазыкі.**

У якасці эмітэнта аблігацый выступае Гарадзенскі гарвыканкам, галоўным агентам з'яўляецца ААТ «Беларускі біржавы банк». Аб'ём размяшчаемых аблігацый першай траншы па наміналу складае 111 мільёнаў 400 тысяч рублёў. Колькасць аблігацый першай траншы - 1 мільён 114 тысяч адзінак. Тэрмін абароту аблігацый першай траншы - 91 дзень; дата выкупу аблігацый - 28 снежня 2000 года; колькасць купонаў па размяшчаемых аблігацыях - 3 (тры); форма выпуску - беспапяровая, у выглядзе запісаў на рахунках; намінальны кошт адной каштоўнай паперы - 100 рублёў.

**Аляксей Арэшка**




**29, 30 верасня** - пераменная воблачнасць, без ападкаў, вецер заходні, 5-10 м/с. Тэмпература паветра **29 і 30 верасня** - уначы +4...+9, удзень +12...+16.

# Чаму плача хлопчык Дзмітрыя Іваноўскага

**Гэтая карціна мастака Дзмітрыя Іваноўскага «Дапамажыце, калі ласка, маёй Маці!» - бадай, самы вядомы ягоны твор. Карціна выстаўлялася на вялікае кола гледачоў, пра яе перыядычна пішуць у друку. Аднак кожны, асабіста для сябе, па-рознаму вытлумачваў слёзы маленькага хлопчыка з бел-чырвона-белым сцягам. На наш погляд, надышоў той момант, калі трэба запытацца ў самога мастака: «Чаму плача хлопчык Дзмітрыя Іваноўскага?»**




- За гэты твор мяне шмат разоў білі, як з аднаго боку, так і з другога. Людзі з «вертыкальным» душком мне казалі: «Навошта ты малюеш гэтую «нацысцкую» сімволіку?». Нават сябры мае, з Народнага Фронту, гаварылі: «Што ж ты малюеш хлопчыка з бел-чырвона-белым сцягам і са слязьмі? Ён павінен стаяць мужна». Справа ў тым, што ідэя работы з`явілася ў 1994 годзе. Яшчэ быў толькі пачатак размоваў пра той, першы, рэферэндум. І я проста адчуў патрэбу зрабіць такую работу. Я не мог абыякава паставіцца да пытанняў пра нашую мову, сімволіку...

...Слёзы на твары хлопца і надпіс на скрыньцы «Дапамажыце, калі ласка, маёй Маці!» не азначаюць, што ён просіць вашай матэрыяльнай дапамогі, маўляў, кіньце ў скарбонку некалькі рублёў. Гэта зусім не так, хаця многія мо так і разумеюць. Я хацеў перадаць тое, што гэта нармальны, моцны хлопчык, які можа сам пастаяць за сябе. Але ён плача з-за таго, што мы, дарослыя, будзем галасаваць, будзем аддаваць свае галасы за тое, каб пазбавіць яго ягонай беларускай мовы і нацыянальнай сімволікі ягонага краю. Ён са слязьмі, таму што сам не можа вырашыць сваю будучыню, а мы вырашаем за яго...

...На жаль, работа ўвесь час застаецца актуальнай. Я б хацеў, каб яна была работай, проста зробленай у свой час. Але ўвесь час яна жыве і гэты хлопчык працягвае плакаць. Цяпер зноў цягнуць на нейкія выбары...

...Хачу толькі аднаго. Людзі! Не дайце сябе ашукаць, зрабіце гэтую карціну гісторыяй.

**Павал Мажэйка**

# Вертыкаль крадзе цяпло

**З надыходам восеньска-зімовага сезону ў гарадзенцаў узнікла новая праблема - холад у кватэры. На двары, здавалася б, толькі канец верасня, а на вечаровы прагляд тэлепраграмаў сям'я збіраецца ўжо ў поўнай экіпіроўцы - шкарпэткі з воўны, трыко з начосам, махеравы халат з башлыком і г.д. Да таго ж, яшчэ даводзіцца пару раз уставаць і размінацца. каб зусім не акалець.**

Адчуваючы гарачыню праблемы, мы звярнуліся, як падавалася, па адрасе - у «Гарадзенскія цеплавыя сеткі». Леанід Журкевіч, дырэктар прадпрыемства, адказаў, што вырашаць тое, калі пусціць цяпло ў трубы, - не ягоныя клопаты. Гэтае рашэнне прымае гарвыканкам. Аднак для прынясця яго неабходна, каб сярэдняя тэмпература паветра на працягу пяці дзён была +8 і ніжэй. І, паводле словаў Леаніда Журкевіча, такога ўзроўню тэмпературы яшчэ не зафіксавана.

Даводзім да ведама спадара Журкевіча, што такая тэмпература зафіксавана гарадскім метэацэнтрам. Восьградусы сярэдняй тэмпературы за апошнія дні:

23 верасня - +6,5 градуса;
24 верасня - +6,6 градуса;
25 верасня - +7,1 градуса;
26 верасня - +7,2 градуса;
27 верасня - +7,2 градуса;

Пяць дзён запар тэмпература паветра ніжэй як +8. Усё адпаведна пастанове ўрада Беларусі. Гродна павінен ужо быць з цяплом!

Зразумела, што ані «Гарадзенскія цеплавыя сеткі», ні, тым больш, іх дырэктар, абсалютна невінаватыя ў тым, што ў гарадскіх кватэрах яшчэ няма цяпла. Усё вырашаецца «зверху». Але навошта ў чарговы раз падманваць людзей? Навошта казаць, што цяпла няма, таму што жыхары не заклейваюць вокны?

Гарадзенскія ўлады спадзяюцца на пацяпленне, на тое, што тэмпература раптам «выскачыць» за патрэбныя +8 і можна будзе яшчэ на пару дзён захаваць недатыкальны запас паліва, якога і так амаль няма. Але пры чым тут людзі і іхняе здароўе?

Прэс-канферэнцыя на тэму падрыхтоўкі горада да зімы плануецца на наступны тыдзень. Аднак гэта не азначае, што цяпло будзе хутка ўключана.

**Іван Паўлёнак**

## Вуліцы Спартовай - імя стваральніка!

**Ініцыятыўная група пад кіраўніцтвам вядомага гарадзенскага нумізмата Віктара Какарэкі пачала збор подпісаў за пераназванне вуліцы Спартовай у «Набярэжную Юзафа Ядкоўскага». Хадайніцтва з подпісамі гарадзенцаў будзе накіравана ў Гарадзенскі гарадскі савет дэпутатаў.**

Апрача гэтага, Віктар Какарэка хоча ўсталяваць памятны знак у гонар выдатнага навукоўца, грамадскага дзеяча, заснавальніка і першага дырэктара Гістарычнага музея ў Гродна Юзафа Ядкоўскага, 100-гадовы юбілей якога будзе адзначацца ў снежні 2000 года.

Паставіць свой подпіс пад зваротам можна ў рэдакцыі ПАГОНІ альбо папярэдне патэлефанаваўшы на нумар 72-26-27.

*Ул. інф.*

## Не скрадзеш - не пражывеш

**Напрыканцы лета гарадзенскі гарвыканкам парупіўся - ніколі не падумаў бы - пра кукурузу. Было прынята распараджэнне нумар 395 «Аб рэалізацыі кукурузы». Цяпер кукурузай можна гандляваць толькі пры ўмове, што тая вырасла на ўласным лецішчы альбо набытая з дазволу калгаса. Гандляр мусіць мець адпаведную даведку. Бо інакш ім зоймуцца органы міліцыі.**

Напрыклад, каля Скідальскага рынку ў Гродне мясцовыя міліцыянты звярнулі ўвагу на гандляра кукурузнымі катахамі. Небарака сам прызнаўся, што скраў іх на калгасных палетках. Таго, хто хітрэйшы і не прызнаецца ў крадзяжы, могуць прыцягнуць да адказнасці за незаконны гандаль. Паляванне на несуноў ідзе непасрэдна на палях. Так, патрапіў у міліцэйскі нерат «на гарачым» нават настаўнік з Менска. А ўсяго на Гарадзеншчыне за восем месяцаў за крадзяжы ўраджаю ды іншыя дробныя крадзяжы было прыцягнута да адказнасці 1848 чалавек. Найбольш вызначыўся Лідскі раён, дзе затрымана 311 асобаў; а вось у Свіслацкім раёне затрымалі усяго 37.

Міліцыя змагаецца і з больш небяспечнымі крадзяжамі. За учыненне злачынстваў у сельскагаспадарчым сектары прыцягнута да крымінальнай адказнасці 190 чалавек (найбольй у Навагрудскім раёне - 31, найменей у Ашмянскім і Воранаўскім - 7). Тут у міліцыі сапраўды шмат рэальнай працы, бо ў вобласці зарэгістравана 4 708 вясковых аб'ектаў, якія трэба ахоўваць (фермы, сховішчы, бурты і г.д.), тым болей, што ў гаспадарак не стае грошай на ахоўнае абсталяванне ды вартаўнікоў.

Мяне чамусьці ўразіла паведамленне пра гэтага сталічнага настаўніка. У ягонай торбе было пяць кіляў кукурузы. Я ўяўляю, як ён есць зварыны ў салёнай вадзе катах, запівае яго малаком... Ён пайшоў красці, бо ў яго няма грошай на папкорн ды чыпсы. Кукурузны катах - не прысмак, але голад спаталяе. Дый калгас не збяднее, бо тая кукуруза ўсё роўна вымерзне ці нават пойдзе пад снег. Затое міліцыя пры справе, пільнуе. І гарвыканкам працуе - «рэгулюе рэалізацыю кукурузы».

**Сяргей Сноп**

# Бензін даражэе і знікае

**Тройчы за верасень падскочылі кошты на бензін і дызельнае паліва. Даражэй стала запраўляцца як за беларускія рублі, так і за валюту.**

Цяпер за 76-ы будзем плаціць не 361, а 404 рублі. Літр 92-га бензіну падвысіўся ў цане на 46 рублёў і каштуе 505 рублёў. Літр 95-га бензіну і дызельнага паліва каштуе цяпер 579 і 375 рублёў адпаведна.

Новыя кошты за паліва ў валюце выглядаюць наступным чынам: дызпаліва - 37 цэнтаў за літр, 76-ы - 39 цэнтаў, 92-гі - 49 цэнтаў, а за літр 95-га трэба будзе выкласці 56 цэнтаў.

Нягледзячы на чарговае падвышэнне, гарадзенскія аўтааматары гатовыя плаціць і гэтыя грошы. Галоўнае, каб было за што. На мінулым тыдні ўжо прагучаў чарговы трывожны званок - бензіну не было наогул, а саляру можна было купіць толькі за валюту.

**П.М.**

# Фракцыя апазіцыянераў у Народнай Грамадзе

**Група членаў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада), нязгодных з дзеяннямі кіраўніцтва партыі, выступіла з заявай аб стварэнні ўнутрыпартыйнай фракцыі. Сярод аўтараў заявы - намеснік старшыні БСДП (НГ) Аляксей Кароль, члены Цэнтральнага камітэта партыі Аляксандр Абрамовіч (старшыня барысаўскай арганізацыі), Таццяна Алесіна, Валянцін Аскірка, Павел Знавец, Міхаіл Варанец (старшыня слонімскай арганізацыі), Міхаіл Патрэба (старшыня гарадзенскай гарадской арганізацыі), Іван Каліноўскі (намеснік старшыні віцебскай гарадской арганізацыі), Іосіф Палубятка (старшыня гарадзенскай абласной арганізацыі) і іншыя.**

У заяве адзначаецца, што стварэнне ўнутрыпартыйнай фракцыі абумоўлена занепакоенасцю «пэўнымі негатыўнымі тэндэнцыямі ва ўнутрыпартыйным жыцці», якія найбольш ярка праяўляюцца «у спаўзанні БСДП да аўтарытарных метадаў кіравання», «у падборы кадраў па прынцыпу асабістай адданасці», «у выкарыстанні асобнымі кіраўнікамі БСДП яе аўтарытэту для задавальнення асабістых кар'ерных амбіцый», а таксама ў прыняцці, насуперак рэзалюцыі Кангрэса дэмакратычных сіл аб стаўленні да парламенцкіх выбараў, «двухсэнсоўнай пастановы аб юрыдычным няўдзеле, а фактычна аб удзеле БСДП (НГ) у выбарчым фарсе».

Як паведаміў адзін з тых, хто падпісаў заяву, член Цэнтральнага камітэта БСДП (НГ) Анатоль Гурыновіч, стварэнне фракцыі трэба разглядаць не як раскол партыі, а, насупраць, як спробу захаваць БСДП (НГ), з якой апошнім часам пачаўся масавы выхад партыйцаў, не згодных з рашэннем шэрагу членаў кіраўніцтва ўдзельнічаць у парламенцкіх выбарах. Урэшце, як адзначыў Анатоль Гурыновіч, удзел некаторых прадстаўнікоў кіраўніцтва ў выбарах - не адзіная прычына стварэння фракцыі. Падпісаўшыя заяву члены БСДП (НГ), паводле яго слоў, таксама занепакоены «дыктатарскімі замашкамі» старшыні партыі Мікалая Статкевіча, які «ігнаруе меркаванне астатніх членаў партыі».

Лідар БСДП (НГ) Мікалай Статкевіч у сваю чаргу адзначыў, што не ставіцца да ідэі стварэння партыйнай фракцыі сур'ёзна. Паводле яго слоў, для стварэння ўнутрыпартыйнай фракцыі неабходна, каб гэтае рашэнне падтрымалі не менш чым трэцяя частка членаў БСДП (НГ), таму, лічыць ён, пакуль гаварыць можна толькі пра намер стварыць фракцыю. З іншага боку, сказаў Статкевіч, БСДП (НГ) - гэта дэмакратычная партыя, і жадаючыя маюць права ствараць сваю фракцыю.

**Юрый Пацёмкін**

# Дасягнулі «кампрамісу»

**Арганізатары «Марша свабоды - 3» і мінскія гарадскія улады здолелі дасягнуць кампрміс наконт правядзення гэтай акцыі, запланаванай на 1 кастрычніка.**

Як паведамілі у прэс-цэнтры грамадскай ініцыятывы «Хартыя-97», кампрамісная рашэнне было прынята ўвечары 25 верасня. Згодна з гэтым рашэннем, збор удзельнікаў акцыі пачнецца а 12-й гадзіне на пляцоўцы каля Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (НАНБ). Потым, з 12.30 да 14 гадзін, адбудзецца шэсце - ад НАНБ па праспекту Ф.Скарыны і вуліцы Сурганава да парку Дружбы народаў (побач з плошчай Бангалор). Мітынг пройдзе ў парку з 14 да 16 гадзін, яго колькасць не павінна перавышаць 100 тысяч чалавек.

Першапачаткова арганізатары «Марша свабоды - 3», які праходзіць у межах акцыі апазіцыі «Байкот - 2000», планавалі шэсце ад акадэміі навук да плошчы Незалежнасці, дзе меркавалася правесці мітынг. Аднак на першым пасяджэнні Мінгарвыканкам дазволіў толькі правядзенне мітынгу ў парку Дружбы народаў.

У сваю чаргу, арганізатары, а гэта больш за сто кіраўнікоў палітычных партый, грамадскіх арганізацый, дзеячаў навукі і культуры, настойвалі на правядзенні шэсця, спасылаючыся на Канстытуцыю, якая дае грамадзянам такое права. У выніку ўлады вымушаны былі дазволіць шэсце, змяніўшы пры гэтым яго маршрут.

**Наталля Кулагіна**

З моманту зьнікненьня нашага калегі Дзьмітрыя Завадскага мінула:

83 ДНІ

Мы патрабуем ад уладаў тэрміновага расьледаваньня абставінаў гэтай справы.



# Грамадзянін Булах-Блахаваты пра кандыдатаў у Палату...N6, альбо з палаты ў Палату?

Глядзеў днямі трансляцыю выступлення аднаго з кандыдатаў у дэпутаты ў палатку па Ваўкавыскай выбарчай акрузе (прозвішча знарок не называю, самі ж разумееце, дармавая рэклама). Чытае ён, значыцца, па паперцы: пра галечу і бяду нашую, пра тое, што давялі краіну да краю бездані і г.д. Калі карацей, спасылаючыся на таго ж Гаварухіна: «Так жыць нельга». Падумалася - ну добра чалавек кажа (але з чаго гэта «кандыдаты» ў палатку раптам усе разам «сталі відушчымі», як думаеце?). І галоўнае, да нармальнай апазіцыі не чапляецца. Мо галасоў ейных захацеў? - наіўна падумалася мне. Але ж напрыканцы ўсё-ткі сапсаваў ён сабе імідж заступніка гаротных і ляпнуў такое глупства, ад якога і прыйшла мне на розум назва гэтага артыкула.

**«Я ни за кого не буду голосовать. Ни за кого! Всё равно обманут. Одни ушли со льготами, вторые придут - льготы прихватят. И ещё президента будут давить. Не потому, что я тут против выборов. Ради бога!.. Но я не пойду голосовать». (А.Лукашэнка. З тэлевыступу напярэдадні парламенцкіх выбараў, 20.04.1995 г.)**

Сэнс сказанага прыблізна такі. Да апазіцыі гэты кандыдат ставіцца адмоўна, бо тая просіць NATO, Захад ды Амерыку збамбардаваць Беларусь (!!?). Хворы дый годзе. Цікава было б паглядзець на ягоную хеўру падтрымкі і даведацца, дзе яна збірала галасы выбаршчыкаў. Ці не ў сумнавядомай бальніцы?

Ну ды Бог з ім, з гэтым чалавекам. Дэмакратыя ўсё ж, як ні кажы. А напісаў я гэта ўсё з зусім іншай прычыны. Пры такіх дэпутатах, ды калі б быў яшчэ ў нашага «бацькі» ядзерны чамадан і ядзерная зброя да яго, жах падумаць, што засталося б ад Зямлі. Так што правільна, А.Р., не галасуйце Вы за гэтых выскачак. Не галасуйце і на прэзідэнцкіх выбарах, асабліва за самога сябе. Бо калі тыя выскачкі яшчэ збіраюцца падмануць людзей, то Вы ўжо іх падманулі, і не раз. Прыгадваецца ўрывак з Высоцкага:

*Подымайте руки.*
*В урны суйте*
*Бюллетени, даже*
*не читав -*
*Помереть от скуки!*
*Голосуйте.*
*Только, чур, меня*
*Не приплюсуйте:*
*Я не разделяю ваш*
*устав!*

Напісаў, а потым падумаў - які там у палатцы «устаў»? Адзін рэжым дня. Думайце, людзі! Бо калі не вы, то за вас будуць «думаць» вышэйапісаныя «кандыдаты».

**З прывітаннем Б.-Б.**

# Я прагаласую за таго, хто возьме цяжар Беларусі на свае плечы!

**Зноўку я спатрэбілася. Зноў ветліва запрашаюць галасаваць. І так усё жыццё. Як чатыры гады мінуць, дык адразу пра мяне ўзгадваюць. Былі нават выпадкі, калі дахаты прыходзілі кандыдаты, пыталіся пра маё жыццё, абяцалі цудоўную будучыню і дабрабыт, калі я за іх прагаласую. Напярэдадні і ў дзень выбараў я «даставала» разнастайныя дэфіцыты: абутак і адзенне, харчаванне і лекі і г.д.**

У дзень выбараў на выбарчым участку грала музыка, выбаршчыкі танцавалі, хаця галасаванне ў большасці выпадках адбывалася падчас Вялікага Посту. Але хто зважаў на такія «дробязі»? Пераносілі бюлетэні ад стала да скрынкі, і, такім чынам, выконвалі свой грамадзянскі абавязак. А пасля частавалі сябе за ўласныя грошы ў буфеце, дзе ў гэты дзень усё прадавалася без гандлёвых нацэнак. За дзяржаўныя грошы пілі і елі сябры выбарчай камісіі. Бо для іх гэта быў працоўны дзень, а для мяне - свята. Пасля выбараў пачыналіся цудоўная будучыня і дабрабыт для выбраннікаў. Мая асоба ўжо нікога не цікавіла на бліжэйшыя чатыры гады.

А цяпер? Як пачынаецца выбарчая кампанія, дык у вачах мітусіцца ад улётак і партрэтаў. Вушы вянуць ад абяцанняў. Суседзі і сябры сварацца паміж сабою за кандыдатаў. А тыя, у сваю чаргу, як і чатыры гады таму, абяцаюць і заклікаюць. Тым не менш, я, як выбаршчыца, павінна вызначыцца ў сваім выбары. Разважаючы над тым, што было, ёсць і будзе, я прыйшла да высновы, што ад майго выбару не шмат што зменіцца, але зрабіць гэта я павінна ў адпаведнасці з маім сумленнем.

Вертыкальшчыкі і тыя, хто іх падтрымлівае, не могуць быць маімі выбраннікамі таму, што я не маю даверу да людзей, якія не ведаюць і не хочуць ведаць ні гісторыі, ні мовы, якія могуць быць вернікамі і атэістамі адначасова. Апазіцыя дагэтуль не вырашыла, хто больш любіць Беларусь (ці той, хто ідзе на выбары, ці той, хто байкатуе). І наогул, людзі, для якіх пасада і ўлада - галоўнае ў жыцці, мяне не цікавяць. Шукаючы выйсце, прыгадалася мне казка, якую хачу прапанаваць чытачам ПАГОНІ.

Да жанчыны, якая набірала ваду са студні, падышоў вандроўнік і папрасіў дазволу напіцца. Жанчына ветліва дазволіла. Напіўшыся, вандроўнік падзякаваў за ваду і запытаўся: «А дзяцей маеш?» У жанчыны шчасцем заіскрыліся вочы. Яна паказала ў бок вуліцы і адказала: «Маю! Вунь яны, трое!» Па вуліцы ішлі тры прыгожыя высокія дзяцюкі. Адзін свістаў на пальцах, другі выкідваў нагамі розныя каленцы, а трэці падбег да маці, узяў з яе рук вёдры з вадою і панёс дадому. Калі вандроўнік убачыў гэта, то здзіўлена спытаў: «А дзе ж яны? Я бачу толькі аднаго сына».

Гэта старая, як свет, народная казка, а мне ўсё жыццё дзяўблі ў галаву, што я нарадзілася, каб казку зрабіць быллю. Таму гэтым разам я прагаласую за таго, хто возьме цяжар Беларусі на свае плечы, каб ва ўласным доме дожылася жыццё.

**І.Барысевіч,**
**м.Парэчча**

# Гавел думае пра Беларусь

**Натальля Маковік, афіцыйны прадстаўнік БНФ «Адраджэньне» й Партыі БНФ ў Чэхіі, правяла 19 верасьня шэраг сустрэчаў з прадстаўнікамі чэскіх уладаў. У прыватнасьці прайшла сустрэча з Пэтрай Жылінoвай - супрацоўніцай палітычнага аддзелу Адміністрацыі прэзыдэнта Чэхіі Вацлава Гавэла, - якая адказвае за беларускі кірунак.**

Падчас сустрэчы спадарыня Жылінова зазначыла, што Прэзыдэнт заўсёды інфармаваны пра сытуацыю ў Беларусі й цьвёрда падтрымлівае імкненьне беларускага народу да дэмакратыі. Яна таксама запэўніла, што пытаньне аб парушэньні падставовых правоў і годнасьці чалавека ў Беларусі будзе абмяркоўвацца на ўсіх міжнародных сустрэчах. Спадарыня Жылінова паведаміла, што афіцыйныя ўлады Чэхіі з трывогай сочаць за сыстэматычным ігнараваньнем Лукашэнкам правоў беларускіх грамадзянаў, таму падтрымліваюць ініцыятыву апазыцыі байкатаваць восеньскія парляманцкія выбары. «Наколькі гэта ў нашай кампэтэнцыі, мы будзем уплываць на МЗС Чэскай Рэспублікі, каб тыя не дасылалі назіральнікаў на 15 кастрычніка», - сказала супрацоўніца Адміністрацыі прэзыдэнта. Вацлаў Гавэл рады, што Чэхія працягвае традыцыю яшчэ першага чэхаслявацкага прэзыдэнта Масарыка, які даваў магчымасьць маладым беларускім эмігрантам атрымліваць вышэйшую адукацыю. Так і з гэтага году 12 беларускіх студэнтаў, якія былі перасьледаваныя ў Беларусі за свае палітычныя погляды, прыехалі навучацца ў Чэскую Рэспубліку. Спадарыня Жылінова запэўніла: «Мы заўсёды будзем падтрымліваць цесныя стасункі з дэмакратычнымі сіламі Рэспублікі Беларусь».

Напрыканцы сустрэчы ад Натальлі Маковік, якая зьяўляецца і намесьнікам старшыні Маладога Фронту, спадарыня Пэтра Жылінова атрымала ў падарунак бел-чырвона-белы сьцяжок і паабяцала перадаць яго асабіста Вацлаву Гавэлу з прывітаньнямі зь Беларусі.

У гэты ж дзень адбылася сустрэча Натальлі Маковік з сэнатарам Міхалам Жантоўскім, які зьяўляецца старшынём замежнай камісіі Сэнату. У размове спадар Жантоўскі выказаў непакой адносна масавых перасьледаў удзельнікаў кампаніі байкоту і паведаміў, што беларуская Амбасада ў Чэхіі зьвярнулася да парляманатароў Чэскай Рэспублікі з заклікам прыехаць на выбары. Ён абверг інфармацыю, што Чэхія, нібыта, дасылае назіральнікаў. Больш таго, на міжнародным узроўні Чэская Рэспубліка будзе выказвацца супраць прызнаньня вынікаў выбараў.

**Ул. інф.**

# Еўрарэгіён працуе трэці год - а праблемаў усё болей

**21-23 верасня ў гарадзенскім Лядовым палацы прайшла універсальная шматгаліновая выстава «Еўрарэгіён «Нёман-2000».**

Дэманстрацыйныя стэнды афармілі каля 30-ці вытворчых прадпрыемстваў Гродна і вобласці. Ад двух іншых бакоў Еўрарэгіёна «Нёман» - Польшчы і Літвы - не выстаўляўся ніхто. Былі толькі дэлегацыі бізнесоўцаў.

На адкрыцці выставы прысутнічалі прадстаўнікі абласных і гарадскіх уладаў, прадстаўнік Літоўскага бюро еўрарэгіёна Гінтарас Скамарочус, Генеральны консул Польшчы ў Беларусі Сільвестр Шостак ды іншыя афіцыйныя асобы. Старшыня гарвыканкама Анатоль Пашкевіч назваў выставу «добрай зарукай ў станаўленні нашых міждзяржаўных стасункаў, у фармаванні малой палітыкі» і прачытаў двухрадкоўе пра восень А.Пушкіна. Пасля перарazання чырвонай стужкі экспазіцыя была адкрытая для ўсіх цікаўных.

Адразу кінулася ў вочы, што сёлетняя, ужо другая па ліку выстава, значна меншая за мінулагоднюю. Самымі цікавымі для публікі павільёнамі сталі «Лідскі піўзавод» і «Гарадзенскі піўзавод», дзе дэгустацыя бачковага піва працягвалася амаль увесь першы дзень. Водар смажанага і вэнджанага мяса прыцягваў да павільёна мяснай прамысловасці. Тут была, напэўна, самая маляўнічая кампазіцыя з прыбраных у арыгінальныя гарнітуры смажаных качак і мудрагелістых карцінаў з кветкамі ды кілбасамі розных гатункаў. Акрамя вялікіх дзяржаўных прадпрыемстваў - «Азота», «Хімвалакна», - прыкладна палову ўдзельнікаў склалі прыватныя фірмы. Калі размеркаваць увесь спектр удзельнікаў па галінах, то тут былі хімічная, лёгкая, харчовая, бакалейная, мэбельная ды іншыя вытворчасці.

Сярод галоўных мэтаў арганізацыі такой выставы старшыня Савета еўрарэгіёна Міхаіл Бяляеў традыцыйна называе заключэнне шматбаковых кантрактаў, што павінна працаваць на развіццё эканомікі прыгранічных раёнаў Беларусі, Польшчы, Літвы і Расеі, інтэграцыі эканамічных працэсаў. Аднак пакольki былі прадстаўлены ўзоры толькі беларускай прадукцыі, пра бурнае развіццё міждзяржаўнага супрацоўніцтва гаварыць не даводзіцца.

Кіраўнік літоўскай дэлегацыі Гінтарас Скамарочус шчыра распавядаў пра перашкоды ў наладжванні супрацоўніцтва:

- Дакладную інфармацыю наконт даты і месца правядзення выставы мы атрымалі толькі два з паловай месяцы таму. Гэта стала галоўнай прычынай таго, што літоўская прадукцыя не прадстаўлена на выставе. Мы проста не паспелі падаць усе дакументы на выезд і правоз у мытню. Нам папросту ніхто не мог сказаць, ці будзе выстава, а будзе - то калі. Былі адны толькі размовы - то планавалі ў красавіку, то ў траўні, а зрабілі выставу ў верасні. Акрамя гэтага, мы адчулі недахоп інфармацыі. У нас у Літве кожны год выпускаюцца каталогі вытворцаў - у вас жа я ніводнага не ўбачыў. Хаця мо яны і ёсць, не ведаю.

*- Вас задавальняюць умовы ўдзелу ў выставе?*

- З нас запыталі 343 даляры за 4 квадратныя метры выставачнай плошчы плюс 150 даляраў розных рэгістрацыйных збораў, атрымліваецца каля паўтысячы даляраў. У Літве ж гэта каштуе ў 4-5 разоў танней. Наш нацыянальны фонд падрымкі прадпрымальніцтва проста не меў сродкаў для арганізацыі прадстаўнічай паездкі ў Гродна.

Мы лічым, што неабходна мяняць нашыя міждзяржаўныя кантакты. Першае, што неабходна зрабіць для паўнавартаснага развіцця нашых адносінаў - гэта знізіць кошты і пошліны, заранёў даваць дакладную інфармацыю і забяспечыць нам з мясцовымі вытворцамі роўныя магчымасці. Можна колькі заўгодна гаварыць пра падтрымку мясцовых вытворцаў - але без здаровай канкурэнтнай барацьбы яны хутка стануць цяжарам для ўладаў. З-за няроўных умоваў удзелу ў выставе, вялікіх падаткаў на ўвоз ды іншых плацяжоў мы не здолелі прывезці да вас выдатнае літоўскае піва, іншыя тавары.

*- Што цікавіць літоўскіх бізнесоўцаў у Беларусі?*

- Мы маем намер закупіць пасажырскія аўтобусы, шукаем вытворцаў электратурбінаў для нашых мініэлектрастанцыяў. У складзе нашай дэлегацыі прыехалі 30 чалавек - прадстаўнікі харчовай прамысловасці, будаўнічых фірмаў, гандлёвага сектару. Але за адзін дзень мы не здолеем знайсці партнёраў і наладзіць кантакты.

*- Як бы Вы ацанілі вынікі трэцяга года работы еўрарэгіёна «Нёман»?*

- Гэты еўрарэгіён і для Літвы, і для Беларусі - першы. Нямецка-польскія свабодныя эканамічныя зоны штогод атрымоўваюць ад Савета Еўропы па паўмільёна даляраў на добраўпарадкаванне і сапраўды развіваюцца. У нас жа пакуль шмат праблемаў, вырашыць якія можа толькі кіраўніцтва нашых краінаў. Трэба разам працаваць: еўрарэгіён прынёс стабілізацыю ў Заходняй Еўропе. Стабілізацыя ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе патрэбна не менш, нягледзячы на тое, што нехта арыентуецца на NATO і Еўрасаюз, а нехта - у супрацьлеглы бок. Лепей укладаць грошы ў супрацоўніцтва, чым потым траціць іх у Чачні і Босніі.

*- Якія агульныя для Беларусі, Літвы і Польшчы праблемы ў стане вырашыць еўрарэгіён?*

- Для вялікіх праблемаў межаў няма. Мільёны літоўцаў і беларусаў памірають ад сухотаў - Еўрасаюз пачынае новую супрацьсухотную праграму, да якой неабходна падключацца і нам. Нідзе ў Еўропе няма такіх лясоў, як у Беларусі - трэба спыніць высечку лясоў.

*- Што рэальна Савет еўрарэгіёна ў стане зрабіць для спрашчэння міждзяржаўных кантактаў?*

- За год пастараемся вырашыць пытанне з візамі. Думаю, гэта рэальна.

Арганізацыя выставы ажыццяўлялася з дапамогай нацыянальнага выставачнага цэнтра «Белэкспа». Многае тут здзівіла несамавітасцю. Людзі нідзе не маглі ўбачыць расклад трохдзённага мерапрыемства, каб падысці на тую падзею, што сапраўды цікавіць, а не тырчаць у холе падчас кулуарных бізнес-сустрэчаў. Журналістам чамусьці не хапіла буклетаў пра еўрарэгіён «Нёман» і саму выставу. Наогул, павільён з надпісам «Белэкспо» зіхацеў некранутай чысцінёй ад нейкай даведачнай літаратуры.

**У выніку бізнесоўскіх сустрэчаў падчас выставы было заключана каля двухсот кантрактаў паміж беларускімі партнёрамі. На выставу пайшло прыкладна 25 мільёнаў дэнамінаваных беларускіх рублёў з бюджэту Еўрарэгіёна. Скончылася універсальная выстава ўручэннем дыпломаў удзельнікам.**

**Алена Сіневіч**

# Весяліцца і танцуе ўвесь народ

**У суботу, 23 верасня, плошча Леніна ператварылася ў кірмашную плошчу.**

З раніцы тут віраваў кірмаш «Залатая восень». Гандлёвыя і харчовыя прадпрыемствы вабілі да сваіх павільёнаў як кулінарнымі вышукамі, так і ўбраннем з кветак, шарыкаў, размаляваных гарбузоў. За столікамі, выстаўленымі проста на вуліцы, можна было паснедаць шашлыкамі, піражкамі, блінамі, гарачымі кілбаскамі на выбар.

На вулічнай сцэне ладзілася тэатралізаванае прадстаўленне з сюрпрызамі для дзятвы. Выступілі музычныя калектывы Гарадзенскага вучылішча мастацтваў, ансамбль «Гарадзенскія трубы». Галоўнай гераіняй свята стала цётка Карына, што запрашала прахожых да танцаў і, відаць, была галоўнай забаўляльніцай усёй весялосці. Удалося ёй выцягнуць на тур вальса і мэра Анатоля Пашкевіча. Ён акурат наведваў кірмаш разам з дэлегацыяй з выставы Еўрарэгіёна.

Да назвы кірмаша «Залатая восень» цалкам пасавала і сонечнае надвор'е, і залатая з барвай лістота. Так што хто там быў, мёд-піва піў, той добра павесяліўся.

**А.С.**

# Гарадзенцы наведалі страусаў і «калгасы»

**З 21 па 24 верасня ў Белавежскай пушчы, праўда, з польскага боку, адбывалася канферэнцыя «Тэрытарыяльнае самакіраванне на Беласточчыне і Гарадзеншчыне: ідэя і практыка». Удзел у ёй узялі 14 прадстаўнікоў грамадскіх арганізацыяў і сродкаў масавай інфармацыі з Гродна, Ваўкавыска і Смаргоні.**

Арганізатары канферэнцыі, Цэнтр Грамадзянскай адукацыі Польшча - Беларусь і Фонд імя Льва Сапегі, азнаёмілі ўдзельнікаў з умовамі існавання мясцовага бізнесу, станам беларускай адукацыі, роляй органаў самакіравання.

За чатыры дні канферэнцыі беларусы наведалі шэраг мясцовых вёсак, паразмаўлялі з бізнесоўцамі і, нават, пабывалі ў «калгасе» ды на страусінай ферме.

**Павал Мажэйка**

# Наркакур`еры з Наваградка

**Да чатырох гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў ППК узмоцненага рэжыму і канфіскацыі маёмасці прыгаварыў суд Цэнтральнага раёна Менска двух маладых жыхароў Наваградка - Зяблава і Коршуна. Яны прызнаны вінаватымі ў кантрабандзе наркотыкаў.**

Як паведамілі ў прэс-групе Упраўлення Камітэта дзяржаўнай бяспекі па Менску і Менскай вобласці, прыцягненне злачынцаў да адказнасці стала магчымым дзякуючы паспяхова праведзенай беларускімі контрразведчыкамі аперацыі па ўкараненні ў злачынную групу. На працягу доўгага часу аператыўнікі кантралявалі яе дзейнасць і затрымалі жыхароў Наваградка на месцы злачынства пры продажу 170 грамаў сінтэтычнага наркотыка - амфетаміну. За гэтую партыю тыя мелі намер атрымаць 1.200 даляраў.

Падчас следства было ўстаноўлена, што наркотыкі Зяблаў і Коршун атрымлівалі ў Беластоку ў польскага грамадзяніна Даруша Гінтаўта, перавозілі праз кантрольна-прапускны пункт «Брузгі» і дастаўлялі на продаж у Менск. На аснове інфармацыі беларускіх спецслужбаў польскія праваахоўныя органы арыштавалі пастаўшчыка зелля.

Улічваючы прызнанні падсудных, іх раскаянне, а таксама тое, што на ўтрыманні ў абодвух знаходзяцца бацькі-інваліды, суд прызначыў ім пакаранне ніжэй за ніжэйшую граніцу.

**Вячаслаў Будкевіч**

**Практычна штодзённа на Гарадзеншчыне канфіскоўваюць наркатычныя сродкі. З пачатку верасня зафіксаваны 24 факты іх выяўлення. У выніку канфіскавана больш чым 17 кілаграмаў наркатычнага зелля, у асноўным макавай саломкі і макавак. Днямі Ваўкавыскім РАУС распачата крымінальная справа супраць мясцовага юнака, у кватэры якога 8 верасня было знойдзена 69,1 грама марыхуаны. 18 верасня участковым інспектарам гэтага райаддзела міліцыі ў кватэры жыхара гарпасёлка Рось было знойдзена 2 кілаграмы сырых канопляў.**

# Ці будзе пакладзены канец самавольству чапаеўцаў?

**У «перадавым і паспяховым» калгасе імя Чапаева нядаўна, падчас уборкі, адбыўся стыхійны калгасны бунт. Ініцыятарамі страйку ў калгасе і нават несанкцыянаванага шэсця па цэнтральнай вуліцы вёскі Варняны сталі механізатары, якіх дружна падтрымалі практычна ўсе калгаснікі.**

Пасля гэтых падзеяў яны напісалі зварот і даслалі яго на добра вядомы ўсім у горадзе Менску адрас (вуліца К.Маркса,38), у мясцовую раённую вертыкаль і некаторыя СМІ. Пад зваротам паставілі свае подпісы больш як 90 чалавек. У прыватнасці, калгаснікі запатрабавалі, каб у трохдзённы тэрмін была ліквідаваная больш як трохмесячная завінавачанасць па заробкай плаце, і неадкладна ўсім, хто мае патрэбу, быў дадзены корм для хатняй жывёлы.

Акрамя таго, у звароце калгаснікаў рашуча запатрабавана пакласці канец незаконна ўсталяванаму праўленнем калгаса феадальна-прыгоннаму здзеку, што чыніцца тут з 1996 года, пры надзяленні вяскоўцаў зямельнымі ўчасткамі для вядзення хатняй гаспадаркі і прывесці ўсё гэта ў адпаведнасць з дзеючым законам. Адмяніць не менш незаконную па сваёй сутнасці, агідную і рабаўніцкую калгасную практыку спагнання натуральнай платы (малочнай даніны) з усіх грамадзянаў, якія маюць у гаспадарках каровай і коней, за карыстанне пашай і выдаткоўваемы корм у разліку па 1 літру малака ў дзень за кожную галаву быдла на працягу ўсяго пашавага перыяду з першага траўня па першае кастрычніка. У звароце калгаснікаў - адчайны крык душы, бо тое, што даўно набалела за апошнія некалькі гадоў, упарта ігнаравалася не толькі калгасным кіраўніцтвам, але і вышэйшай уладаю.

Пра ўвесь гэты «беспредел» ды самадурства, што чыніцца вось ужо колькі часу ў калгасе імя Чапаева, добра ведалі і ў раёне, і нават у больш высокіх кабінетах улады. Аднак ніякіх мераў не прадпрымалі.

І гэтым разам – тое ж самае. Амаль на наступны дзень пасля бурнай падзеі ў калгасе сталі шукаць галоўных завадатараў калгаснага страйку і, безумоўна, знайшлі. Былі звольненыя два маладыя актыўныя калгаснікі. Надоўгае паляванне на пазначаных скончылася на карысць старшыні калгаса В.Рука. Амаль адразу пасля гэтага на сваё працоўнае месца намесніка старшыні вярнуўся і Гвaздоў, якога ўдзельнікі страйку запатрабавалі звольніць з пасады. (Ён, дарэчы, спярша нават падаў заяву аб звальненні па асабістаму жаданню). Няцяжка ўявіць, што ў гэтых умовах калгаснікі ізноў прыціхлі, застаўшыся сам-насам са сваімі цяжкімі думкамі і пачуццём страху. Але ці надоўга?

Між тым, «беспредел» у калгасе імя Чапаева - гэта не толькі самавольства і непрыхаваны здзек з боку калгасных верхаводаў са сваіх падначаленых. Калгас імя Чапаева - бясспрэчны лідар па распачатых крымінальных справах, у цэнтры якіх знаходзяцца менавіта самі кіраўнікі калгаса.

Першая з іх некалькі гадоў таму была распачатая па факту незаконнага набыцця за калгасныя грошы старшынём калгаса В.Рукам аўтамабіля «Audi-100». Падчас расследавання быў устаноўлены і факт кантрабанды - перамяшчэння праз беларуска-літоўскую мяжу вялікай сумы ў валюце. Але гэтая справа, якую на заключным этапе расследаваў КГБ, была закрытая. Мауляў, «у сувязі са зменай абставінаў».

Яшчэ адной крымінальнай справай, якая спярша была распачатая па калгасу імя Чапаева, а затым надзейна пахаваная пад стандартнай фармулёўкай «у сувязі з адсутнасцю складу злачынства», з'яўляецца справа з незаконным набыццём і эксплуатацыяй на працягу дзесяці гадоў за кошт калгаса аўтамабіля «Ніва» ва ўпраўленні сельскай гаспадаркі Астравецкага райвыканкама. Відавочна, што да гэтага злачынства мае дачыненне і раённае кіраўніцтва, у тым ліку і былы раённы вертыкальшчык М.Кудырка, які напярэканцы мінулага года атрымаў пасаду ў абласной вертыкалі - старшыні абласнога камітэта па прыродных рэсурсах і экалогіі.

Трэцяя крымінальная справа па вышэйзгаданаму калгасу тычыцца махлярства, якое было здзейснена тут пры набыцці калгасам трактара К-701 (ламачча - заўвага аўт.) ад Санкт-Пецярбургскай грамадскай арганізацыі «Расейскае вайсковае брацтва» і з дапамогай шматхадовай камбінацыі пры ўдзеле яшчэ некалькіх камерцыйных структураў. У гэтым выпадку махляры-жулікі не толькі абчысцілі на круглую суму калгасную касу, але кудысьці ў невядомым кірунку ўмыкнулі 10 тон калгаснага мяса, якія таксама былі нібыта платай за набыты калгасам трактар.

І вось зусім нядаўна ў калгасе зноў учынена парушэнне. З ачышчальных збудаванняў калгаснага свінагадоўчага комплексу быў зафіксаваны наўмысны і доўгатэрміновы па працягласці выкід нечыстотаў у раку Газянка - прыток Віліі, што ўпадае ў Нёман. Але чакаць таго, што па гэтаму факту будуць прынятыя вычарпальныя меры з прыцягненнем да адказнасці сапраўдных вінаватых, не выпадае. Бо падобныя здарэнні ўжо не раз фіксаваліся, аднак раённая інспекцыя па ахове прыроды ў асобе М. Шагуна ўпарта стараецца не заўважаць відавочнае.

Адказ на пытанне, пастаўленае ў загаловак гэтага артыкула, пакуль застаецца адкрытым. І напэўна, будзе заставацца адкрытым да той пары, пакуль не адбудзецца змена сённяшніх уладаносцаў.

**Мікалай Уласевіч, настаўнік геаграфіі**

# РЭКЛАМА Тэлефон: (0152) 72-29-96, 72-37-14




## ПРАДАЮ

4-пакаёвую кватэру чэшскай планіроўкі (2-і паверх) па вуліцы Дзяржынскага альбо мяняю. Прапаноўвайце варыянты. Тэл. 31-05-69.

2-пакаёвую кватэру (2-і паверх) у раёне вуліцы Пушкіна: хатняя рэчы, сценка, кухня, стол, крэсла, канапа, трумо. Тэл. 33-30-98.

Жылы дом у вёсцы Зарыца. Звяртацца: вёска Лапенкі, дом 71.

Дом у вёсцы Пескі Мастоўскага раёна: гаспадарчыя пабудовы, зямельны надзел 0,20 гектараў, побач - лес, рака Зяльвянка. Тэл. 76-37-90.

Левую фару ад «Audi-100», б/у; новы фотаапарат «Зеніт-21SX»; узмацняльнік «Вега-122 АС50»; лічбавую магнітолу «Tomashi». Тэл. 73-00-00 (аб.95352).

Камп'ютар. Тэл. 72-29-96 (акрамя серады і выхадных - з 10.00 да 18.00) ці 44-69-03 (пасля 19.00).

Дыскі ад а/м «Mazda-626». Тэл. 76-37-90.

Картрыджы для 16-бітнай прыстаўкі «Sega» (па кошту 2,5 тыс. рублёў): Gemfire («Каштоўны агонь», прыгодніцкая ваенна-стратэгічная гульня); Mutant League Football (Мутанцкая футбольная ліга», амерыканскі футбол жахлівых мутантаў); Rock-N-Roll Rasing (аўтамабільныя гонкі іншапланецянаў); Ghost Busters («Паляўнічыя за прывідамі», прыгодніцкая гульня); 4-гульнёўку - Bare Knucle («Вуліцы гневу», баявая сюжэтная гульня, вулічныя бойкі), Caesar's Palace (азартныя гульні ў казіно: рулетка, косці, лато, 21 ачко, «аднарукі бандыт», відэапокер, скачкі, латарэя), Sonic-1 (прыгодніцкая гульня), Alien-3 (прыгодніцкі касмічны баявік па матывах к/ф «Чужыя»). Да ўсіх гульняў прыкладаюцца іх апісанні, коды, паролі, сакрэты, парады, гульнёвыя прыёмы. Тэл. 75-44-70 (запрасіць Святлану).

Кнігі: «Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны», беларуска-расейскі слоўнік Байкова, слоўнік беларускай мовы Насовіча ды інш. Тэл. (017) 258-43-54.

Піяніна «Беларусь». Тэл. 5-70-98.

Халадзільнік «Снайге-8» без фрыёну. Кошт - 5000 рублёў. Тэл. 6-69-65 (пасля 16.00).

Паліраваныя пісьмовы стол і 3-дзверную шафу. Усё б/у. Танна. Тэл. 2-77-54.

Падольскую швачую нажную машыну, б/у. Тэл. 31-05-69.

Дзіцячы манеж і дзіцячую каляску. Усё б/у, у добрым стане. Тэл. у Ваўкавыску 2-53-92.

Каракулевую шубу. Тэл. 33-30-98.

Рогі лася (11 разгалінаванняў); 2 паўтарачныя(1,5) ложкі (б/у, танна); магнітафоны «Сатурн-201», «Вега-328-стэрэа»; мужчынскія плашчы (п.46-54), мужчынскія касцюмы (п.48 рост 182; п.50 рост 176), жаночыя боты: асеннія (п.37), зімовыя (п.38). Тэл. 33-79-95.

Металічную цапліцу пад шкло. Тэл. 75-33-55.

Адборную бульбу. Тэл. 99-49-96.

## КУПЛЮ

Польскую бульбакапалку (аднарадную ці двзюхрадную). Тэл. (8-256) 3-75-12.

Настольную лямпу. Танна. Тэл. прац. 72-37-14, 72-29-96 (з 10.00 да 18.00, акрамя серады і выхадных, запрасіць Святлану), хатні 75-44-70 (штодня, пасля 19.00).

Рухавік да аўтамабіля «Fiat Uno». Тэл. 74-33-94. Вялікую алюмініевую каструлю з нержавеючай сталі (унутраны дыяметр не менш за 45 см). Тэл. у Бераставіцы 2-14-00.

Нержавеючыя электроды. Тэл. 47-26-03 (запрасіць Сяргея).

Антыкварыят, старыя манеты, узнагароды, гадзіннікі. Тэл. 72-02-26.

Старыя піўныя бутэлькі з надпісамі на шкле. Тэл. 75-33-55.

Бензін у любой колькасці. Тэл. 99-49-96.

## ПАСЛУГІ

Урокі класічнай ігры на гітары на аснове сціслага вывучэння элементарнай тэорыі музыкі і музычнай гармоніі. Тэл. 72-16-55.

Набор тэкстаў, табліцаў на камп'ютары. Раздрукоўка на струйным альбо матрычным прынтары. Танна. Не абавязкова на Вашай паперы. Тэл. 93-53-56.

Рэпетытарства па ангельскай мове. Дасведчаны высокакваліфікаваны педагог. Тэл. 72-62-79.

Беларуская, расейская, ангельская, балгарская, польская мовы: пераклады, індывідуальныя заняткі. Тэл. 2-85-77.

Ангельская мова: афармленне дакументацыі, анкетаў, пераклады. Тэл. 31-15-83 (запрасіць Аляксандра).

Рамонт каляровых тэлевізараў. Устаноўка ПАЛ, дыстанцыйнага кіравання, тэлетэксту. Ліц. N1243, выдадзенага МП да 2004 года. Тэл. 31-37-05.

Рэпетытарства па ангельскай і нямецкай мовах. Пераклады. Тэл. 6-12-71 (пасля 18.00).

Ангельская мова для ўсіх. Тэл. 76-38-02.

Дапамагу ў выкананні задачаў, кантрольных, курсавых і дыпломных работаў па любых будаўнічых канструкцыях, супраціўленню матэрыялаў, тэарэтычнай тэхнічнай ды будаўнічай механіцы. Тэл. 72-16-55.

Рэпетытарства па фізіцы. Дапамагу ў рашэнні задачаў, кантрольных работаў. Тэл. 76-55-14 (запрасіць Юрыя).

Усё па ангельскай, беларускай і лацінскай мовах. Тэл. 33-21-83.

Выраб ксеракопіяў у вялікай колькасці. Пасведчанне N17955. Тэл. 44-14-33 (з 12.00 да 14.00).

Набор тэкстаў на камп'ютары, сканаванне, раздрукоўка на матрычным прынтары. Тэл. 76-55-16.

Ангельская мова: пераклады і кантрольныя работы. Хутка і якасна. Тэл. 31-15-83.

Абследаванне і лячэнне хранічных захворванняў па метадыцы Р.Фоля. Ліц. МЗ РБ N224 да 30.XII.2001 года. Тэл. (8-017) 258-88-14.

Кладу печы, каміны. Хутка, якасна, надзейна і прыгожа. Тэл. 6-46-32.

**Доктар С.Каляда**
Інтэнсіўная псіхатэрапія алкагалізму, залішняй вагі. Найноўшыя методыкі. Тэл. 74-35-46 (да 18.00). Ліц. N796 па 23 сакавіка 2004 г., МЗ РБ.

Відэаздымка. Якасна, прафесійна выканаем работы па стварэнню відэафільма, відэакліпа, рэкламнага роліка. Ліц. N613, выдадз. МК да 2004 года. Выязджаем на месца здымкі на сваім транспарце. Звяртацца: 231900, Гарадзенская вобласць, г.Ваўкавыск, а/с 17. Тэл. 2-34-86.

## РОЗНАЕ

Згубленыя дакументы на аўтамашыну і вадзіцельскае пасведчанне на імя С.В.Харунжый, просьба вярнуць за ўзнагароду. Тэл. 39-97-28, 2-20-21.

2-пакаёвую кватэру ў цэнтры горада. Тэл. 44-55-94.

Шукаю працу на прадпрыемстве па рамонту і зборцы мэблі. Тэл. 44-39-15.

Шукаю працу на прадпрыемстве па падшыўцы і падклейванні падэшваў у абутку. Тэл. 31-77-41.

Шукаю працу на прадпрыемстве па абіўцы мяккай мэблі, па нарэзцы пратэктару шынаў легкавых, грузавых машынаў усіх марак. Тэл. 44-39-15.

Студэнцкі білет N97-723 на імя А.Н.Калчанава лічыць несапраўдным.

Замаўляйце і чытайце газету беларускіх нацыяналістаў «Голас Краю». Выйшаў 7-8 нумар. Адрас для кантактаў: 230037, г.Менск, а/с 49.

Супрацоўнікі рэдакцыі ПАГОНІ нагадваюць чытачам, якія дасылаюць аб'явы ў рубрыку «Знаёмствы», пра неабходнасць указваць напрыканцы купона нумар паштовага аддзялення сувязі і сваёй абаненцкай скрыні, альбо пакідаць наступную інфармацыю: індэкс паштовага аддзялення, «да запатрабавання, прад'яўніку пашпарта ці іншага дакумента...»; ці прыходзіць у рэдакцыю з купонам аб'явы і сваім пашпартам. Гэта дасць усе падставы меркаваць, што абвесткі накшт знаёмстваў належаць менавіта вам, шаноўныя чытачы, а не тым, хто жадае з вас пажартаваць.

## ЗНАЁМСТВЫ

Пазнаёмлюся з добрым і надзейным мужчынам для стварэння сям'і. Пра сябе: Ірына, добрая, ласкавая, замужам не была, дзяцей няма, адукацыя вышэйшая. Пісаць: 230023, г.Гродна-23, а/с 54.

Мужчына, 31/173, нармальнага целаскладу, пазнаёміцца з дзяўчынай для сур'ёзных адносінаў. Пісаць: 230012, г.Гродна, да запатрабавання, прад'яўніку пашпарта КН 0163997.

Сімпатычная стройная жанчына пазнаёміцца з прыстойным мужчынам 33-40 гадоў. Пісаць: 230025, г.Гродна, Галоўпаштамт, да запатрабавання, прад'яўніцы пашпарта N5054875.

Пазнаёмлюся з добрым адзінокім мужчынам, які не злоўжывае спіртным. Пра сябе: 45/170/85, удава. Пісаць: 231300, г.Ліда-1, да запатрабавання, прад'яўніцы пашпарта N7559996.

Мужчына, 40/180, хоча пазнаёміцца з цікавай жанчынай для сустрэчаў. Пісаць: 230027, г.Гродна, да запатрабавання, прад'яўніку пашпарта II ДР 501334.

Пазнаёмлюся з адзінокай жанчынай. Пра сябе: 40/170/65, разведзены, не куру, спіртным не злоўжываю. Пішыце: 230025, г.Гродна, Галоўпаштамт, да запатрабавання, прад'яўніку пашпарта КН 0452627.





Запрашаем вас прыняць удзел у навуковай канферэнцыі **«Беларуская тапаніміка. Гісторыя і сучаснасць»**, якую праводзіць ТБМ імя Ф.Скарыны **14 кастрычніка 2000 года** ў памяшканні кінатэатра «Змена». Просім вас даслаць заяўкі на выступленні, а таксама тэзісы вашых дакладаў (аб'ём - дзве-тры друкаваныя старонкі) **да 5 кастрычніка 2000 года** на адрас: 220005, г.Менск, вул. Румянцава, 13.

# Гарадзенскі ўікэнд



**Гісторыка-археалагічны музей. Стары замак.** Выстава «Гродна, адкрыты археолагамі». **Новы замак.** Авальная зала. Паэтык… скуры і металу ў выставе «Творы майстроў БСМНТ». Сенатарская зала. Дзейнічае экспазіцыя «Зброя мінулых стагоддзяў».

**Галерэя «У Майстра» (вул. Кірава, 14).** Выстава Зігмунда Баранэка. Жывапіс і графіка.

**Выставачная зала Саюза мастакоў.** Фотавыстава Георгія Гуляўскага пад назвай «Макракосмас».

**Музей Гісторыі Гарадніцы (вул. Ажэшкі, 37).** 29 верасня - адкрыццё персанальнай выставы каваля Юрыя Круша. Пачатак у 16.00.

**Дызайн-галерэя «Раскоша» (вул. Ажэшкі, 39а).** Выстава антыкварыяту, керамікі, шкла, скуры і твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**Музей Максіма Багдановіча** запрашае з 10.00 да 18.00. Выхадныя дні: нядзеля, панядзелак.

**Тэатр лялек. 28 верасня** - Луна Датта і Юрый Зябкін - танцавальны дуэт «Энігма». Пачатак у 19.00.

**Моладзевыя дыскатэкі**

**Начны клуб «Клетка»** - з 21.00 да 06.00 (чацвер - нядзеля).

**Кінатэатр «Кастрычнік»** - з 22.00 да 01.00, працуе кафэ-бар (серада - нядзеля).

**Палац тэкстыльшчыкаў** - з 20.00 да 24.00 (у пятніцу), з 20.00 да 01.00 (у суботу), з 20.00 да 01.00 (у нядзелю).

**Палац «Юнацтва»** - з 20.00 да 01.00.

**Калізей-2000.** Начны клуб адчынены з 23.00 да 05.00, акрамя панядзелка - танцавальны і стрыпцізшоу. Рэстаран працуе з 12.00 да 05.00.

**Гатэль «Нёман».** Начны клуб-казіно «777». Дзейнічае бар, танцавальнае шоу, казіно. Клуб адчынены з 20.00 да 06.00.

**Газета ПАГОНЯ**
Запрашае на працу *пенсіянераў, студэнтаў, школьнікаў і часова непрацуючых - для распаўсюджвання нашай газеты!*
*Тэл. 72-37-14, 72-29-96*

**ПАГОНЯ купон прыватнай бясплатнай аб'явы**

36 Імя і прозвішча ____________________

Адрас (тэлефон) ____________________

Рубрыка ____________________

Тэкст ____________________

Аб'явы, дасланыя на купонах, друкуюцца ў першую чаргу; неразборліва напісаныя аб'явы не друкуюцца

Купон з тэкстам адпраўце па пошце на адрас: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11

ПЯРЭСТЫ КУТ

# І гэта яшчэ не ўсё!




Мінулы тыдзень істотна дадаў станоўчых эмоцыяў беларускім заўзятарам спорту. На Алімпіядзе ў Сіднэі ў нас зьявіўся першы залаты медаль, аздоблены чарговым камплектам «бронзы». У веславаньні ў звышдраматычнай барацьбе нашая Кацярына Карстэн на сотую долю секунды апярэдзіла балгарку Нэйкаву і прынесла беларусам такі даўгачаканы залаты медаль. Для нашай славутай вясьляркі гэта ўжо трэці алімпійскі медаль: у Барсэлёне-92 яна была трэцяй, у Атланце-96 - першай. Калі ж улічыць, што паміж дзьвюма апошнімі Алімпіядамі Кацярына пасьпела стаць маці, то яе выступ інакш як подзьвігам не назавеш.

Блізкая да пьедэсталу ў акадэмічным веславаньні была і нашая жаночая васьмёрка, якая толькі крыху больш за секунду саступіла канадкам, што фінішавалі трэцімі. Чарговы ўнёсак у медалёвую калекцыю беларусаў зрабілі нашыя снайперы. Сяргей Мартынаў стаў 3-м у стральбе на 50 метраў з адвольнай вінтоўкі. Бронза на рахунку і Лаліты Яўглеўскай у стральбе на 25 метраў з пісталета. Куды менш удала выступіла гарадзенка Ірына Шылава - 20-21 месца ў стральбе на 50 метраў з адвольнай вінтоўкі.

Генадзь Алешчук (вагавая катэгорыя да 62 кг) заняў 3-е месца ў турніры цяжкаатлетаў. Медаль дасталася беларусу ў надзвычай драматычных абставінах. Спаборніцтвы ў гэтай вагавай катэгорыі адбываліся 17 верасьня. Наш зямляк, які набраў аднолькавую суму ў двубор'і разам з грэкам Сабанісам і балгарынам Мінчавым-Ангелавым, у лік прызёраў не трапіў, бо меў крыху большую ўласную вагу за супернікаў. Але праз некалькі дзён высьветлілася, што балгарын не прайшоў допінг-кантроль, і бронзавы медаль быў аддадзены беларусу. Удала стартавалі ў Сіднэі беларускія лёгкаатлеты. У сямібор'і нашая Натальля Сазановіч толькі на 4 ачкі адстала ад срэбранай лаўрэаткі спаборніцтваў расіянкі Прохаравай. І гэты вынік заслугоўвае вялікай пашаны, бо Натальля пасьля нараджэньня дзіцяці толькі ў сёлетнім студзені распачала падрыхтоўку да Алімпіяды і ў рэкордна кароткі тэрмін здолела аднавіць сваю форму. Добры падарунак усім нам зрабілі нашыя малатабойцы. У кваліфікацыі гарадзенцы Ігар Астапковіч і Іван Ціхан занялі адпаведна 1-е і 10 месцы. У фінале ў Івана атрымліваецца кідок на 79.17 метраў - і ён становіцца трэцім. Але праз некалькі хвілінаў абсалютна такі ж вынік дэманструе Астапковіч. Наступныя спробы палепшыць гэты вынік у абодвух не атрымаліся, але па лепшаму другому выніку на трэцюю прыступку ўздымаецца Астапковіч. Ціхан - чацьвёрты!

Медальныя спадзевы ўскладаліся і на кідальнікаў дыску Васіля Капцюха і гарадзенца Ўладзіміра Дуброўшчыка. Абодва беларусы засталіся, аднак, без узнагародаў. Васіль стаў чацьвёртым, а Ўладзімір - сёмым.

Нечакана ўдала дэбютаваў на Алімпійскіх гульнях малады гарадзенец Павел Пелепягін. На дыстанцыі 800 метраў ён выйграў свой забег і трапіў у паўфінал.

Па стане на ўчарашнюю раніцу добрыя шанцы на медалі мелі беларускі Эвеліна Зверава (дыск) і экс-гарадзенка Яніна Карольчык (штурханьне ядра). Абедзьве яны мелі лепшыя вынікі пасьля кваліфікацыі. Гарадзенкі Сьвятлана Судак і Людміла Губкіна ў кіданьні молата трапілі ў фінал адпаведна 8-й і 10-й.

Што да выступаў іншых гарадзенцаў. У эстафеце плыўцоў 4х200 метраў вольным стылем зборная Беларусі, у складзе якой плыў гарадзенец Ігар Каляда, амаль на 2 секунды перавысіла рэкорд краіны. Але гэтага хапіла толькі на тое, каб заняць 12-е месца на Алімпіядзе.

У турніры гімнастаў Іван Паўлоўскі стаў 33-м ў шматбор'і. Без медалёў застаўся наш Іван Іванкоў. У шматбор'і ў драматычнай барацьбе ён стаў чацьвёртым, у нядзелю ў практыкаваньні на кольцах - пяты. Такі ж вынік у Івана і ў практыкаваньні на брусах. Калі для нашай гімнастычнай зоркі такія месцы - яўная няўдача, то для гарадзенкі Тацяны Жарганавай 5-е месца ў практыкаваньнях на брусах - самы значны посьпех у яе спартовай кар'еры. На турніры барцоў грэка-рымскага стылю хутка выбыў з турніру гарадзенец Віталь Жук (да 63 кг). Другі наш зямляк - Валеры Цыленць (да 85 кг) пачаў з перамогі над расіянінам Меньшыкавым, але далей таксама саступіў супернікам і выбыў з барацьбы за медалі.

У сувязі з траўмай Уладзіміра Капытава (вагавая катэгорыя да 69 кг) у Сіднэй тэрмінова выляцеў гарадзенец Андрэй Лісіца. Трэнеры, аднак, рызыкнулі паставіць на дасьведчанага Капытава і памыліліся - Уладзімір двойчы датэрмінова прайграў свае паядынкі. У звышцяжкай вагавай катэгорыі ў паўфінале беларус Дзьмітры Дзебелка саступіў 0:3 легендарнаму расіяніну Карэліну, а ў паядынку за трэцяе месца з мінімальнай перавагай перамог ізраільцяніна Яўсейчыка.

**Вітаўт Руднік**



**Па гарызанталі:** 7.Камедыя Віталя Вольскага. 8.Іначай - прымхі. 10.Прыток Бярэзіны. 11.Надта ж высокі хлапец. 12.Пры гэтым князі Гародня была другой сталіцай Вялікага княства Літоўскага. 14.Балотная птушка. 16.Вельмі асабістая справа. 17.Адзінка ліку пры ацэнцы спартыўных спаборніцтваў. 19.Радзіма славутага рому. 20.Зборнік вершаў Рыгора Барадуліна. 24.Граматычна аформленае спалучэнне словаў. 25.Грызун, шкоднік хлебных злакаў. 26.Мужчынскае імя. 30.Спагада. 31.Зараснікі кустоў. 32.Сыравіна для макулатуры. 33.След у душы ад перажытага. 34.Рэчыва, якое мае ўласцівасць цячы.

**Па вертыкалі:** 1.Вораг прагрэсу. 2.Вароты са двара ў агарод. 3.Каманда танка. 4.Загана, недахоп. 5.Тратуар папросту. 6.Беларускі пісьменнік, аўтар «Абразкоў». 9.Куды не лазяць за словам? 13.Майстар па хамутах. 15.Штодзённая пяціразовая малітва ў мусульманаў. 17.Кароўнік папросту. 18. «Магніт» для гледача. 21.Верш, у якім пачатковыя літары ўтвараюць слова альбо фразу. 22.Стаіць каля перону. 23.Атрутная лугавая расліна. 27.П'еса Янкі Купалы. 28.Гаспадар чаго-небудзь. 29.Іначай - абярэмак. 32.Сарыч жаночага роду.

### Адказы на крыжаванку, змешчаную ў N35

**Па гарызанталі:** 7.Ірландыя. 8.Галавень. 10.Азгур. 11. «Дударык». 12.Цурбан. 14.Маштак. 16.Рогат. 17.Чынш. 19.Дурань. 20.Турыст. 24.Путч. 25.Адчай. 26.Чворак. 30.Адонак. 31.Рагачоў. 32. «Позвы». 33.Рагвалод. 34.Дзянніца.

**Па вертыкалі:** 1. «Трыбунал». 2.Жняярка. 3. «Рыбакі». 4.Маўр. 5.Гарбуз. 6.Множанне. 9.Угавор. 13.Хамут. 15.Тлушч. 17.Чысло. 18.Гняды. 21.Фундатар. 22.Залоза. 23.Ваколіца. 27.Ваганне. 28.Лайдак. 29.Арыёза. 32.Плод.

ПАМЯТКА ДЛЯ ЖАНЧЫН

# Чым карміць каханага

**Ежа аказвае ўплыў на псіхіку чалавека, яго эмацыйны настрой, здымае стому, падвышае працаздольнасць. А пэўны набор прадуктаў здольны паляпшаць палавую патэнцыю мужчынаў.**

1. Як зазначаецца ў адной з кулінарных кніг XV стагоддзя, «каб атрымаць магутны стымул для поспеху ў інтымных адносінах, варта штодня нашча з'ядаць адзін **ячны жаўток** альбо тры дні запар есці цыбулю і яйкі, і тады вы самі будзеце ўражаныя той сіле і фантазіі, што з'явіцца ў вас».

2. **Цыбуля** праз стагоддзі прaнесла славу «стымулятара» кахання, бо абуджае любоўныя жаданні. Асабліва яе «чырвоная афрыканская разнавіднасць», якая садзейнічае гарманальнай раўнавазе і амаладжвае арганізм.

3. Навуковец Авіцэнна раіў пры зніжэнні палавой здольнасці есці **мяса**, смажанае на патэльні, **яйкі ўсмятку**, **рэпу**, **топленае масла**, **белы хлеб**, **цыбулю**, любыя **арэхі**, піць **малако**.

4. Ваяўнічыя і страсныя кельты ўжывалі **цёмнае піва з яечнымі жаўткамі.**

5. Старажытныя рымляне лічылі прадуктам, які абуджае сладастраснасць, **рыбу**, а таксама не забываліся на іншыя **дарункі мора**, бо ведалі, што фосфар у іх узмацняе патэнцыю.

6. Агульны тонус арганізму, падтрыманне добрага функцыянальнага стану палавога статусу залежыць ад ужывання вітамінаў E, B1, B6, C. Таму варта есці **садавіну**, **гародніну**, **ягады**, **крупы**, **фасолю**, **дрожджы**, **бульбу**, **бабовыя**, **алей**, **сметанковае масла**, **зеляніну**, **салату**, **зародкі пшаніцы**, **вострыя прыправы.**



7. Стымулююць палавую патэнцыю **настойкі і экстракты з жэньшэню, араліі маньчжурскай, элеўтэракоку** калючага, лімонніку кітайскага, **залатога кораня.**

8. На Украіне лічыцца, што мужчынскую змогу павялічваюць **памідоры.**

9. Беларусы аддаюць перавагу **печанай бульбе**, што лёгка засвойваецца і змяшчае ў сабе шмат каштоўных мінеральных рэчываў.

10. На думку французаў, «самы сексуальны прадукт» - **смаўжы**, а таксама не лішнім будзе частаваць каханага **вострым сырам** і **гарачым шакаладам.**

11. Паўднёвыя народы ўпэўненыя, што патэнцыю мужчыны падвышае **кінза** ды іншыя прыправы.

12. Італійцы вераць, што пажадлівасць узмацняюць **масліны.**

**(працяг будзе)**

КРЫМІНАЛ

# Хваля тэлефоннага тэрарызму зноў ахапіла Гродна

**Ад пачатку навучальнага года ў Гродне зноў пачаліся хлуслівыя тэлефанаванні наконт мініравання навучальных установаў. Напрыклад, у Гродне ўжо «мініраваліся» школы нумар 20 і 23, а школу нумар 14 «падрывалі» цэлых тры разы.**

Аднаго з «партызанаў» удалося вылічыць. Ім аказаўся пятнаццацігадовы вучань восьмага класа дваццатай школы, які «паставіў на вушы» ўласную школу 13 верасня. Цяпер яму пагражае крымінальная адказнасць і вялікае грашовае спагнанне.

**Міхась Капялюш**

# П`яніцу спынілі кулі

**Ноччу 22 верасня ў Ваўкавыску прагучалі стрэлы. Каля адной гадзіны ночы інспектар дарожна-патрульнай службы (ДПС) на вуліцы Гарбатава спрабаваў спыніць аўтамашыну «ВАЗ-2107», кіроўца якой праігнараваў патрабаванне міліцыянта спыніцца.**

Парушальнік спрабаваў збегчы, ствараючы пагрозу бяспецы руху і грамадзянам. На выездзе з горада супрацоўнік ДАІ быў змушаны, пасля папярэджваючых стрэлаў, скарыстаць для спынення аўтамашыны табельны пісталет. Усяго было выпушчана 14 патронаў.

Калі аўтамабіль ўсё ж спыніўся, высветлілася, што кіроўца знаходзіўся ў стане алкагольнага ап'янення.

**Ася Куніцкая**

# У кожнага - свой лёс

**25 верасня. «Гомель» - «Нёман-Белкард» 0:1**
**«Ліда» - «Тарпеда-МАЗ» 0:2**
**«Камунальнік» - «Лакаматыў-96» 0:1**

Адзіны гол Аляксея Дзенісні на 2-й хвіліне сустрэчы гульні ў Гомелі пакідае «Нёману шанцы на бронзу. Пасля паразы БАТЭ ў Мазыры 0:2 гарадзенцы (44 ачкі) адстаюць ад барысаўчанаў (46 ачкоў) на два ачкі. У сьпіну нашай камандзе дыхаюць «Шахцёр» (43 ачкі) і «Тарпеда-МАЗ» (43 ачкі).

«Лідзе» (18 ачкоў) давядзецца вытрымаць жорсткую канкурэнцыю за месца ў лізе з «Нафтан-Дэвонам» (19 ачкоў). Зусім кепскія справы ў слонімскіх футбалістаў. Яны займаюць пакуль апошняе месца (14 ачкоў). Толькі ж на рахунку магілёўскага «Тарпеда-Кадзіна». Хутчэй за ўсё, менавіта з чатырох вышэйназваных клубаў і вызначацца тры няўдачнікі сёлетняга турніру.

**Віктар Людвіковіч**

# Гараскоп

♈ **Баран (21.03-20.04).** Гэты тыдзень больш прыдатны для роздуму, чым для дзеянняў. На асабістае жыццё Вам, па вялікаму рахунку, наракаць не давядзецца.

♉ **Бык (21.04-20.05).** У аўторак і пятніцу варта было б крыху абмежаваць выдаткі, ці, прынамсі, не рабіць неабдуманых закупаў.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** Зоркі абяцаюць Вам серыю поспехаў на працы і мноства карысных знаёмстваў. Расплануйце ўікэнд.

♋ **Рак (22.06-22.07).** Спрыяльяны час для таго, каб пазбавіцца ад некаторых комплексаў, унутраных бар'ераў і карэнным чынам змяніць нешта ў асабістым жыцці.

♌ **Леў (23.07-23.08).** Больш адпачывайце. Прысвяціце дзелавым кантактам выхадныя дні.

♍ **Панна (24.08-23.09).** У Вашым асабістым жыцці набліжаецца перыяд, які запатрабуе ад Вас рашучых дзеянняў.

♎ **Шалі (24.09-23.10).** Ваш няўстойлівы на гэтым тыдні настрой можа стварыць Вам шэраг праблемаў. Больш усміхайцеся!

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** Не варта занадта прадузята ставіцца да нядаўніх учынкаў Вашых знаёмых.

♐ **Стралец (23.11-21.12).** Як бы доўга не працягвалася спрыяльная паласа, імкніцеся ўзяць ад жыцця як мага болей.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Новыя знаёмствы могуць унесці значную блытаніну ў Ваша асабістае жыццё. Будзьце напагатове.

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Асцерагайцеся стрэсавых сітуацыяў на працы. Болей кантактуйце з сябрамі.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** Вам лепей устрымацца ад высвятлення адносінаў з блізкімі людзьмі і рэагаваць на мажлівыя выпады спакойна.

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскім абласной унітарным паліграфічным прадпрыемстве «Гродзенская друкарня» Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4. Замова 3 016 Наклад 7 140 Нумар падпісаны да друку ў 16.00 27.09.2000 г.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам. Аб`ём - два ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Аксана Бурдзюк, камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей